№ 1. Год II—1913. Красавік. Май. 13-ая кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

Падпісная цана на 1 год **1** р. **20** кап. на **6** месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня, Віленская 29.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

ВЫДАВЕЦКАЕ ТА... ...СТВА БЕЛАРУСКАЕ

НАЙЛЕПШАГО СОРТУ

КОСЫ СТЫРЫЙСКІЕ

маркі „Туруль“, малаткі, бабкі, машынкі да клепаньня; апрача таго

СЯРПЫ

асаблівейшага сорту прадае

Зыгмунт Нагродзкі

Вільня, Завальная вуліца № 11. Склад машынау і прыладау гаспадарск:х. Гандляромъ уступка.

Выпісывайце дармовые каталогі.

## Мазь замазываць раны на фруктовых дрэвах.

Алівы — 10 лотаў; смалы яловай—30 лот.; несалёнага здору—6 лот.; воску—30 лот. Усё гэта разам паставіць на агонь і як распусьціцца — перэцадзіць праз мусьлён і тады даліць ешчэ 4 лоты тарпатыны і мешаць памаленьку — пакуль не застыне.

Хто мае фруктовы сад, у таго заўсёды павінна быць мазь у запасе, бо часта бывае, ці вецер галіну адшчэпе, ці так які прыпадак, дык трэба услед рану гладзенька абрэзаць і замазаць, каб не забівало туды дажджу, бо тады, як бач, зацягне гніль.

---

## Як зрабіць добры, а танны сыр.

На 10 квартаў зьбіранага малака — ўліць адну кварту маслянкі і паставіць гэта ў хаце—пакуль ня скісьне. Як толькі падойдзе ў гару сываратка, пераліць усё малако у клінок і павесіць яго на 2 дні, пакуль добра не сьцячэ. Пасьля, выкінуўшы с клінку ўсю гэту мешаніну ў міску,—пасаліць, дадаць кміну, добра вымешаць і зноў, злажыўшы у клінок, націснуць яго камнем.

Л. Папроцкі.

Годъ II—1913. Красавік. Май. 13-я кніжка.

САХА ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЯ ХАТА

# Новая гаспадарка.

Гаспадарка нашых часоў, не падобна да гаспадаркі тэй, якую вялі нашы дзяды; а не падобна яна не адным тым, што цяпер замест сахі ужываюць мейсцамі плугі (хоць трэба было-б, каб плуг усюды замяніў саху), а замест дрэўлянай бараны—ужываюць жалезную, амэрыканскую спрунжыноўку;—падсеваюць парашкі, сеюць лубін і інш.

Даўнейшы гаспадар стараўся, каб са сваей гаспадаркі мець жыта на хлеб, ячменю на крупы, аўса на бліны, капусты, буракоў, бульбы, каб мець малака, мяса, перья, яек, адзежу і ўсяго што трэба для жыцьця.

Цяпер гэткі тып гаспадаркі утрымацца ня можэ, бо калі-б гаспадар пачаў старацца сам здаволіць усе патрэбы, не прыкупляючы нічога са стараны, яго ўвесь час пайшоў-бы безкарысна. Цяперэшні тып гаспадаркі іншы тым, што зямля—гэта толькі варштат, фабрыка да вырабу тавару, каторы можна было-б найдаражэй прадаць. Цяпер гаспадар не павінен зьвертаць увагі на тое, каб было *усе свае*, а на тое, каб *на усе было, на усе хапало* з яго працы.

І вось у Амэрыцы мы ужо можэм бачыць такіе наскрозь сучасные тыпы гаспадарак: гаспадаркі спэцыяльные.

Тэкая спэцыяльная гаспадарка прынароўлена да таго, каб вывесьці як можна болей аднароднаго тавару, а за выручэные ад продажы таго тавару грошы, ён ужо здаволівае усе свае патрэбы. Там спэцыялізацыя гаспадаркі пайшла так далёка, што ёсць хутары (фэрмы), каторые гадуюць, напрыклад, адных толькі курэй, іншые—ўсю сваю зямлю засадзілі садам і то адным гатункам дрэў. Гэткая спэцыялізацыя мае той добры бок, што гаспадар, вытвараючы адзін які колечы прадукт на продаж, можэ добра знацца, як гадаваць, як вытварыць найболей і найлепшаго, тым самым і найдаражэйшаго, тавару; тады, як наш гаспадар, ведучы разнастароннюю гаспадарку, каб на ўсім знацца, павінен быў-бы чуць ня ўсе якіе ёсць на сьвеці ведаць навукі. Гаспадар пры спэцыяльнай гаспадарцы можэ мець са сваей гаспадаркі у дзісяцера, а то і у дваццацера большы даход. Гэткі новы тып гаспадаркі пачынае цяпер шырыцца і ў заходнай Эўропе.

Пачынае ён заваёвываць і ў нас што раз большае мейсцэ па дварох і хваліварках, дзе гаспадарацъ больш рухлівые і сьветлые гаспадары і беда толькі у тым, што наша вясковая селянская бедната не хапаецца гэтаго, бо спэцыяльные гаспадаркі акурат найболей даюць карысьці там, дзе свае рабочые рукі за усім глядзяць.

Ведама, да ўсякай спэцiяльнасьцi патрэбна спэцiяльная навуковая падгатоўка i нельга думаць, што у адзiн—два гады нашы селяне ўсей масай пяройдуць на спэцiяльные гаспадаркi без падгатоўкi i без знаньня. Жыцьцё зазвычай належыць да сiльнейшых, i за спэцiяльную гаспадарку жыцьцё прымусiць нас узяцца, але возьмуцца за гэта найсiльнейшые с памiж нас. Сiльнейшые навукай, энэргiей, спрытам. Людзi не энэргiчные астануцца ззаду i павiнны будуць уступiць мейсцэ болей рухлiваму элемэнту. Дзеля гэтаго трэба сьвятлейшым гаспадаром, мяркуючыся з варункамi у якiх знаходзiцца iхняя гаспадарка, якi тавар найлягчэй i найдаражэй можна прадаваць у iх аколiцы, брацца за спэцiяльные гаспадаркi, пачынаючы ад навуковай стараны данай спэцiяльнасьцi.

Хто бываў у латышоў каля Рыгi, той бачыў на шчырых пясочках буйные ягаднiкi сунiц (землянiкi, трускавак), з пясчыстаго гародчыку у поўдзесяцiны латышскi селянiн за лета выручае 1000—1500 рублёў за ягады. Шмат дробных гаспадарак у нямеччыне i у чэхii выбiраюць добрые грошы с гадоўлi сьвiньней, асаблiва калi хапае рабочых рук дагледзiць iх акуратна. Гадоўля сьвiньней, гусей, качак, курэй у вялiкiх гаспадарках не аплачываецца, а у малых дае вялiкi даход.

Адным словам новая гаспадарка, гэта гаспадарка спэцiяльная, каторая зямлю лiчыць варштатам для вырабу як найбольшаго чысла, як найлепшаго, найдаражэйшаго i па скольку змога, аднароднаго тавару. Старая гаспадарка, каб пракармiць i здаволiць усе патрэбы гаспадара, вымагала абшару зямлi. Новая гаспадарка вымагае ад гаспадара знаньня, навуковай падгатоўкi у аднэй якой колечы спэцiяльнасьцi i купецкай рухлiвасьцi. Цяперэшнi, новы гаспадар павiнен, так сказаць, стаяць аднэй нагой на сваiм загоне у вёсцы, другой—на рынку ў горадзе.

**Лемеш.**

---

# Як вырабляць зямлю?

Выробка зямлi гаспадарскiмi машынамi мае на мэцi павярнуць яе, разрыхлiць i тым аддаць яе пад сiлу атмасфэры; т. е. —паветра, цяпла, вiльгацi i марозу; другая мэта: акрыць i перамешаць з зямлёй гной, ачысьцiць ральлю з зельля i урэшце прыкрыць сяубу.

Ведама, што расьлiны цягнуць корм з зямлi карэньнямi. Корэнь ў маладой расьлiны бывае слабы i тонкi, дык у ральлi скалiстай, цьвёрдай, няўзрыхлянай ня могбы разрастацца, ня могбы з яе як трэба кармiцца. Чым - жэ мацней разрастуцца карэньня, тым буйнейшая будзе расьлiна; лепш уродзiць. У мяккой i гнойнай ральлi разрастаюцца яны хутка i даходзяць нiраз да вялiкай меры, да вялiзнай глыбiнi. Карэньня бульбы,

лубіну, канюшыны, люцэрны, маючы выгоду ў зямлі, даходзяць, бывае, да двух аршыноў глыбіні і там яны так ценькіе што з зямлі іх ня вырвіш, дый голым вокам і ня угледзіш.

Калі хочэш, каб расьліна была добрая, прыгатоў для ея добрае мейсца: пэрэвярні ральлю, разрыхлі яе плугам, пружынкай, бараной, абсыпнікам і т. п. А зважаючы, што расьліны буйней і лепей будуць разрастацца, чым глыбей і шырэй будзе тое мейсца, з якога яны будуць магчы карміцца, трэба ральлю, калі толькі склад, або вартасьць яе і запас корму на гэта пазвалюць, старацца араць што раз глыбей.

Ашукаўся-б той гаспадар, думаючы, што самым араньнем, ці баранаваньнем прыдбае ў зямлі корму расьлінам і дасьць ім дужа разрасьціся. Сама вырабка зямлі ня прыспорыць ей корму; яна толькі паддае зямлю пад вялікую сілу атмасфэры—паветра, цяпла і вільгаці, каторые спрыяюць вырабцэ ў ральлі патрэбнаго для расьлін корму. Гаспадар толькі ў моцы пакіраваць гэнымі вялізнымі сіламі, каторые вызываюць разрастаньне расьлінаў.

У зямлі нашай ёсць шмат сырога матэр'ялу, с катораго вырабляецца расьлінны корм. Як чалавек ні сырым зернем збожа, ні сырым мясам карміцца ня можэ, так і расьліны з гэтых сырых кормаў, пачываючых у зямлі, скарыстаць ня могуць.. Як тут, дык і там патрэба некагась, каб гэта сырое зярнё на муку змалоць, а з яе згатаваць зацірку, або сырое мяса упячы. Такой кухаркай, што гатуе яду для расьлін—гэта сілы прыроды: паветра, цяпло, вільгаць і мароз. Яны, праўда, робяць своё паволі, але бязустанна, а чым лягчэй і чым глыбей дабяруцца яны ў зямлю, тым работа іх ідзе сільней і спраўней.

За мэту мэханічнай вырабкі зямлі—араньня, баранаваньня, абсыпкі, трэба прыняць: зямлю разрыхліць і ператрымаць у гэтакім стане, каб тые сілы прыроды, што робяць яе ураджайнай, маглі ў яе лёгка пранікнуць і найбольш корму расьлінам прырыхтаваць. А для гэтаго і сілам прыроды патрэбны час, а яго мы можым даць, аставіўшы выробляную зямлю на даўжэйшы час у спакоі, а прырода сваімі сіламі зробіць сваё.

Калі гаспадар сваю зямлю выгнаіць, паверне, перамешае і гэтак аддасьць пад вырабку паветра, цяпла і вільгаці, то ў зямлі робіцца нешта падобнае, як калі гаспадыня цеста у дзяжы на хлеб расчыніць: ад квасу, ці дражджэй пачынаецца тут за сілай паветра, вільгаці і цяпла праца, каторую называюць фэрмэнтаціей (бражэньнем); ад яго цеста, як кажуць, расьце, робіцца рыхлым, мае асаблівы пах, дый смак, а упечанае дае смачны хлеб. Аб цесьце, каторае гэткі хімічны працэс акуратна перабыло, кажуць, што яно, як трэба падрасло. Аб ральлі-ж, каторая ад вырабкі стала, як трэба, рыхлай, а пасьля ў меру зьбітай, каторая перабыла ўжо той працэс фэрмэнтаціі, ў каторай набралося, колькі трэба, расьліннаго корму, каторая паддаецца пад нагой, бытцам цьвёрды пружынны матрац, кажуць, што яна выдабрэла, або адляжалася. Гэта выдабрэньне ральлі і ёсць глаўны варунак добраго узросту расьлін, яно і ёсць

цэлай мэтай вырабкі зямлі. Вось тут і ёсць увесь сакрэт, як і калі вырабляць зямлю.

Ці-ж ня дурная тая гаспадыня, што, рашчыніўшы цеста, стане мешаць яго без канца, бытцам хлеб з яго будзе смачнейшы? Ці-ж ня дурны той гаспадар, каторы зямлю усё варочае, каторы усё з ею пэцкаецца, спадзеючыся гэтак яе добра вырабіць?!

Спарашкуе яе толькі, змучае, не дасьць сабрацца і вырабіцца расьліннаму корму. Дый акурат так, як гаспадыня, гэтак робячы, толькі цяжкі, не смачны і з закальцам упякла-б хлеб, так і гаспадар той, адно зглуме вырабку і мест багатаго, скупы толькі збярэ ураджай.

Земля адлежалая і выдабрэная пазнаецца па тым, што яна рыхлая, а такі ў меру зьбіта; што пад нагой падаецца, а такі нага не гразне глыбока ў ральлі, далей—што яна ў меру сырая, што мае свой асобны пах і што пакрываецца лёгкім пылам, ці як кажуць красуе.

Каб усё зразумець акуратна, успомню тут некалькі спосабоў вырабкі ральлі, якімі выдабрэньня яе найлягчэй можым дабіцца.

Пры вырабцэ чорнаго папару, ці двухлетняй канюшыны, земля найхутчэй выдабрэе, калі ў канцы мая месяца, ці у чэрвені мы папар выгнаім і плытка яго прыгаром, звальцуем, а посьля забарануем (канюшыну добра перад загараньнем падзерці пружыноўкай, тады яна ешче лепш загарэцца). Тут плыткая ворка патрэбна, каб ральлю павярнуць і узрыхліць, а прыкрыць,—каб ён хутчэй парагніў пад ценкай скібай; баранаваньне патрэбна на тое, каб пабіць, паразрываць скібы, зямлю зрыхліць; валец—на тое, каб парожняе мейсцэ паміж скібамі і спо днім слоям ральлі паменшыць і гэтым самым гной раўней прыкрыць і прыцісьнуць.

Азот, гэты дарагі расьлінны корм, што ёсць у гнаі, ня усюды прыкрытым ральлёй, хутка вылетае ў паветра, а ральля роўна і акуратна прытаптаная не дапускае яго гэтак уцекаць з зямлі.

Калі ральля гэтак выраблена паляжыць якіх 4-5 тыднёў. то працэс выдабрэньня ўжо якбы кончэны. Тымчасам магла ральля ізноў зьбіцца, заскарупець і парасьці зельлям. Значыцца трэба ізноў працы паветру паддаць, а зельля выгубіць. Дабіваімся гэтаго, калі земля нялішне зарасла зельлям, пры помачы бараны, ці пружыноўкі, а калі зельля пропасць, а часу ешчэ досіць,—пры помачы другога загараньня і бараны.

І так ральля наша ніхай ляжыць ізноў 3—4 тыдні, а пад канец ліпня трэба яе роўна загарадь пад сяўбу, каб мела досі часу вылежацца (ізноў якіе 3 тыдні) пад азімае збожа. Ральля, гэтак падгатоўленая, будзе пэўна добра ачышчэна ад зельля, выдабрэная і ураджай з яе будзе пэуны. Вырабка папару і мае сваю вялікую перавагу там, дзе земля цяжкая і вельмі запушчэна, бо інакшым спосабам нельга дабіцца таго выдабрэнь-

ня зямлі, якое дасьць двайное, ці трайное гараньне с патрэбным адлежаньнем, а на гэта хваціць часу толькі ў папары.

Папароў пакідаюць цяпер што раз менш, бо дзякуючы асобым пладазьменам і улепшаным гаспадарскім машынам для выробкі зямлі, знаходзяць змогу і спосабы вырабіць добра зямлю і без папару, каторы шмат займае дарагога мейсца.

Калі прыходзіцца сеяць азімое збожа па азімым, трэба хутка,не аткладаючы, хаця-б і паміж копаў, ржышчэ плытка прыгараць (таксама як і гной, каб лепш перагніло) і забаранаваць, а праз якіе два тыдні загараць пад сяўбу глыбей, а як земля трохі адлежыць і выдабрэе (чаго хутчэй дачакаеш звальцаваўшы яе)—сеяць. Хоць гэта Богам, а праўдай трохі кароткі час, каб земля добра выдабрэла, усё-ж такі гэта пэўнейшы спосаб вырабкі.

Калі-ж азімае збожа прыходзіць па ярыне, як па мешанцэ, ячменю, аўсе, дзе час паміж жнівам аднаго і сяўбой другога збожа ешчэ карецейшы, дзе ральля ад вясновай вырабкі ешчэ крыху пульхная, найлепш зараз посьля зборкі загараць так глыбока, як трэба пад сяўбу і пачэкаць, колькі трэба зямлі адлежацца.

Апрыч выдабрэньня ральлі пры помачы апісаных спосабоў мэханічнай вырабкі, вядомы ешчэ спосаб выдабрэньня зямлі ад самога ацяненьня расьлінамі матыльковымі і струковымі, як канюшынай, гарохам, выкай, лубінам. сэрадэляй і друг. Пасьля добраго гараху, выкі і т. п. земля будзе рыхлая, выдабраная і дужа багата ў азот, гэты найважнейшы і найдаражэйшы расьлінны корм, за каторы, ці ў гнаі, ці у штучных навозах, шмат плаціць нам прыходзіцца, а каторы тут дасца нам дарма, бо расьліны гэтые маюць дзіўную ўласнасць зьбіраць шмат гэтаго азоту с паветра.

Ржышчэ па канюшыне, гароху, выцэ, лубіне і сэрадэлі адразу—пасьля упратаньня—зьдзерці, а калі час сяўбы блізкі—даць адразу сяўную скібу.

Вырабляючы пад ярыну і бульбу, трэба так сама ржышчэ пазьдзіраць, як мага хутчэй, а на зіму—загараць гладка і як трэба глыбока. Гэта надта важна, бо мароз дужа разрыхляе і палепшае зямлю. Гной пад бульбу найлепш вывязьці ў восень і плытка прыгараць, а як ён падгніець, трэба паглубіць гараньне, бо выкінутую на верх цаліну мароз пакрышыць і разрыхліць.

Загараную з восені зямлю, вясной астаецца толькі выраўняць пружыноўкай, засеяць і пабаранаваць, а то часам і звычайнай бараной можна вырабіць добра пад вясновую сяўбу. Веснавога араньня пад ярыну трэба колькі можна высьцерагацца; ад яго лішне прасыхае земля, а нам трэба старацца затрымаць як найболей зімовай вільгаці ў ральлі, каб палепшыць ураджай.

Веснавое араньне пад ярыну можэ быць толькі ў цяжкай і глiністай зямлі. Да якой глыбіні араць—німа на гэта ніякіх агульных рацэптаў: раз прыходзіцца араць плыцей, другі раз—

глыбей. Глыбіня араньня залежыць ад таго, як дагэтуль глыбока аралася, ад глыбіні ураджайнай зямлі і ад таго, якая земля ёсць пад сподам. Усякі гаспадар павінен старацца гараць як можна глыбей, трэба даставаць столькі цаліны, колькі умелай вырабкай і досі дужым дадаткам гною добра вырабіць зможэ. Паглыбляць гараньне значыцца трэба, але патроху, не спешаючыся і толькі там, дзе земля ад споду мае нейкую вартасьць. Нішчымнаго пяску, ці жаўцяку, жвіру, жалезнай руды і т. п. с пад споду даставаць ні варта, хіба што верхні слой глінясты, тады яго трэба перамешаць с пяском, ці жвірам. Вывозячы гной на поле, нашым абавязкам павінна быць, каб акуратна яго у сьлед за возам раскінуць і прыараць, як можна хутчэй. Няўмелым абходам каля гною, мы часта крыўдзім свае гаспадаркі і свае ўласные кішэні. Колькі разоў здарылася ўсякаму бачыць, як гной у кучках ляжыць на полі тыднямі, а нават месяцамі. Гной ня убіты у малай кучцэ хутка прагарае, дужа паменшаецца і дарма прападае яго вартасьць. З гною, кінутаго ў полі на колькі тыднёў, астанецца чуць ні палавіна і то мала вартаго, перэгарэлаго і без найдаражэйшых у ім азотных кармовых частак: яны ўцяклі ў паветра. Астатні з яго, так сказаць, клёк дождж выпалашчыць і разам з ім сьцячэ ў зямлю; вось ад гэтаго на тым мейсцы, дзе лежала кучка, робяцца пасьля латы выбуялаго збожа, што стырчаць праз усё лета зялёные, як жывые сьведкі гаспадарскай недбаласьці. Або, калі кучкі лежаць на касагоры, а прыдзе заліўны дождж і ўсе пажыўные часткі з гною, што ешчэ ня выляцелі ў гару, сплывуць на суседняе поле, а то ў роў, ці рэчку. А ўжо рэшта, так сказаць, бруднай нішчымнай саломы, або смяцьцё, раскідае гаспадар па полі, ды пасьля ніраз дзівуецца, што на гнаі нават і незарадзіла!

Гной, услед за возам раскіданы, трэба зараз і загараць плытка на 3—4 цалі, каб лягчэй дайшло да яго паветра і каб лепш ён разлажыўся—перагніў.

Пад бульбу і буракі можна яго, злашча на лягчэйшай зямлі, прыгараць і глыбей (на 6—7 цалі), бо і так колькі разоў абсыпаючы іх, паветра да гною дапусьцім і ён перагніе.

Зельля найлягчэй можна выгубіць, заўчасу падгорываючы ржышчэ. Тады яно, дзякуючы сонцу і вільгаці, хутка пачынае прарастаць і тут, прайшоўшы бараной, ці пружыноўкай, лёгка з ім справіцца. Найцяжэй, ведама, ваявацъ с пырнікам, ды і той ад добрай-ў пару вырабкі аслабляецца, а спружынаваўшы, збаранаваўшы і выграбіўшы, выгубіш яго да званьня. Апрыч добрай мэханічнай вырабкі зямлі, надта добра зводзіцца пырнік ад густых, удалых пасеваў гароху, мешанкі, выкі, нават грэчкі.

Не забудзьма якую вагу мае раньняе прыгараньне ржышча пад уселякае збожа і бульбу, і колькі яно памагае да ачысткі поля ад зельля. Недбаласьць аб гэтым (на крыўду гаспадаркі) можна тлумачыць тым, што гаспадар лішне перацэняе пашу па ржышчы. С пашы гэтай карысьць малая, а шкода полю вялі-

кая. Трохі гэтай травы, ці пырніку скаціна хутка выскубе, а пасьля ходзіць па пустаполю, найбольш галодная. Ад таго і малако, ні раз зьменшаецца, што пасьля і на лепшай траве пабольшыць яго трудна; каровы і целяты худзеюць і слабеюць. Значыцца гэта паша па ржышчы толькі адгаворка недбалых гаспадароў, каторые не парупіліся на гэты час прыдбаць лепшай пашы; дык яны і кажуць, што ў іх усей пашы—што на на ржышчы.

Паша па ржышчы надта крыўдзіць вырабку зямлі, каторай у пару падгараць нельга, а не загараўшы ў пару, добра вырабіць не спадзевайся; земля лішне зьбітая. цяжкая да вырабу і даець меншы ураджай.

Кінем жэ мы гэту благую моду пасьвіць на ржышчы, ды пастараемся—лепшай: с канюшыны чырвонай, ці белай, мешанкі, сэрадэлі. Гаручы нашы ржышчы парой і пільнуючыся пры вырабе зямлі таго, што тут раіцца, паправім нашые гаспадаркі і дачакаемся з іх большай карысьці, ў чым і ёсць наша супольная мэта.

*Перэрабіў і дапоўніў.*

**Юлік з Моладава.**

# Не марнуйце гною!

У 9 кніжцэ „Сахі“ у стацьці: „Што трэба рабіць з гноем“, расказана дужа цікаваго і важнаго для хлебаробаў—як абхадзіцца з гноем у хлеве. Аб гнаі, калі мы будзем хоць як часта паўтараць, ня будзе многа: гэта нашэ самае балючае мейсцэ.

„Гной—гэта багацьце кожнай гаспадаркі. Трэба яго умець перахаваць, каб з яго нічога ня ўбывала; каб усё, што ёсць у ім пажыўнаго, было вывязена на поле, як харч для збажыны...

Калі наша жывёла будзе карміцца лепшай пашай, то і гной будзе дужа крапчэйшы—будзе мець больш пажыўных частак для расьліны.

Той толькі можэ мець добры гной, хто ўмее яго даглядаць. Бывае, што рупны гаспадар зьбірае гной па надворку і на дарозе, а ня відзіць, або спакойна глядзіць, як жыжка з гною выцякае з ягонаго хлеву ў канаву, або сумысля гаспадаром адведзена ў тую канаву...

Вось і выходзіць: сабраў на залатоўку, а згубіў на паўтара рубля. Жыжка з гною гэта і ёсць увесь мацунак гною—у ёй шмат азоту, каторага патрабуюць нашы расьліны.

Гаспадар, што спускае гнаёвую жыжку с хлявоў і дзяржыць гной у вадзе, спускаючы яе ў канаву, сам сябе акрадае, сам сябе непрыяцель.

Гной найлепш пераховываецца у хлеве пад жывёлай.“

Але, калі важкна нам ведаць, як пільнаваць сваё багацьце у хлеве, ня менш важна ведаць, як шанаваць яго і на полі.

Амаль скрозь ужо так вядзецца ў нас, што селяне возяць гной на поле праз дні тры, чатыры, а то і болей, скідаюць яго ў малые кучкі і ў гэтых кучках ляжыць ён праз тыдзень, два, тры, а пасьля яго растрасаюць і загорываюць.

Але што тут гаварыць аб селянах! Скуль-жэ ім, бедаком, ведаць, як і што трэба рабіць? Ад каго наўчыцца? Калі і па дварох мала дзе ешчэ пастаўлена гаспадарка, як патрэба.

Вось, недаўна шоў я каля однаго двара недалёка ад ст. Крывічы; гляджу: па ўсім полю паскіданы гной маленькімі кучкамі, а мейсцамі ляжыць ён ў вузенькіх, вышынёй, як і ўсе кучкі, валочках. Калі гэты гной вывезены—і не згадаеш чэлавек: мо' с самай вясны, мо' зімой, а мо ешчэ і з восені? Кучкі, ды валікі павысыхалі, выпятрылі, шалясьціць вецярок саломкай, хоць ты назад вязі ея ў хлеў на подсьціл; бо, калі раскідаць яго, загараць, якая-ж з гэтаго карысьць можэ быць, калі там апрача чыстай саломы нічога ўжо не асталося: ўвесь клёк, усю пажыўнасьць для зямлі—дождж выпаласкаў, вецер высушыў, а сонца выпаліло...

А як-жэ трэба абходзіцца з гноям, вывозячы яго на поле?

Калі мы возім гной, павінны яго скідаць пярвей на другім канцы шнура, або гоняў, (не ад дарогі); так кладучы, мы зближаемся да дарогі і ня будзем таптаць раней вывязенаго гною. За першым возам гною—трэба ісьці ў поле і растрасаць яго, як мага драбней, каб у кучах саўсім не ляжаў; па растрэсяным—трэба пушчаць зараз жэ плуг. На шырокіх шнурох вазіць гной і загорываць можна упоперак, а на вузкіх-удоўж, каб на другі дзень нізагаранаго гною ні аставалася, бо гэта павінна лічыцца вялікім грахом.

Загорываць гной глыбока ня трэба, бо ні дасьць нам тэй карысьці, як прыгараны няглыбока. Калі-ж гной у кучах ляжыць на полі тыдзень, або і больш, то ў ім пажыўных часьцей для расьлін, няведаю, ці астанецца хоць одна двадцатая часьць. Вось дзеля чаго гаспадар нераз задумаецца, паглядзеўшы на сваю збажыну: здаецца і шмат гною палажыў, а нешта ні так расьце, як павінна расьці на гнаі. А хто вінават? Сам гаспадар. Калі мы навучымся абходзіцца, наўчымся цаніць гной, ён будзе даваць нам вялікую карысьць. Прыгледзьціся аўсу, ці ячменю на тым полі, гдзе гной у кучах лежаў тыдзень. Мы там убачым на тых мейсцах, дзе лежалі кучы, расьліна зялёная, цёмная і бальшая, а між гэтымі кучамі, хоць гной быў растрэсяны усюды роўна—жоўтая—меншая, як бяз гною. А чему гэта? Там быў прыгараны ўжо ня гной, а салома, а на мейсцах, дзе былі кучы, расьліна добрая, але ні ад гэтай саломы, а ад гнаеўкі, каторая с куч гною выцякла ў зямлю.

Мы гною маем нямнога. Наўчымся-ж цаніць і шанаваць яго, як у хлеве, так і на полі, каб не страціць ні аднэй часткі пажыўнай для расьліны, а карысьці ад гэтаго мы будзем мець у сто разоў больш, чым цяпер.

**А. Бэнэцэвіч.**

*Падбярэзя 6 красавіка 1913 г.*

# Які можна мець даход з аднэй каровы.

У апошнім нумэры „Сахі“ была аддрукована цэлая табліца а спосабах корму і карысьці з гэтаго дойных кароў. Ня менш цікаўная справа і с пробамі добраго і акуратнаго даглёду кароў у двары Бабоўні Слуцкаго павету Мінскай губ.

Вось, напрыклад, падлічаючы акуратна расход і прыход, якіе мелі там з аднэй каровы, выпадае так.

Пробу рабілі на 9-ці гадовай карове — „Залётнай“ — вагі 27 пудоў. У 1910 гаду, калі ешчэ ня было заведзена акуратнай кармешкі, „Залётная“ дала ўсяго 514 гарнцоў малака. У 1911 гаду пачалі яе карміць асобна (індывідуальна), тады гэта самая карова дала ўжо 735 гарнцоў малака, а ў 1912 г.— надаілі з ея 1026 гарнцоў.

З гэтаго мы бачым, якая вялікая розніца можэ быць млечнасьці аднэй і тэй самай каровы, дзякуючы толькі добра прытасованаму корму да самой жывёлы.

Цяпер падлічым колькі абышоўся корм „Залётнай“ праз увесь год, і які чысты даход аставаўся ад яе.

Праз усё лета карова з'ела поў дзесяціны белай канюшыны—лічыць 45 рублёў. Праз 100 дзён давалі. ёй па 75 фунт. зялёнай вікі—гэта варта рублёў 18, апрача таго праз 200 дзён давалі па тры вядры на дзень пойла, каторае абыйшлося 6 рублёў.

Уся, значыцца, летняя кармешка абыйшлася (45 + 18 + 6) —69 рублёў.

Падлічым цяпер кармешку зімовую. Корм гэты лічыць трэба на 200 дзён.

1) Мяккіны і саломы ярыной па 25 ф. на дзень = 125 пудоў па 20 кап. = 25 рублёў.

2) Жмыхоў па 5 фунт, = 25 пудоў па 1 р. 4 к. = 26 руб.

3) буракоў па 16 ф, на дзень = 80 пудоў па 10 кап. = 8 рублёў.

Значыцца корм праз усю зіму каштаваў (25 + 26 + 8)— 59 рублёў. А разам ўся кармешка праз год—летняя і зімовая (69 + 59) = 128 рублёў.

Даход, калі лічыць гарнец малака па 16 кап. будзе такі.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| У 1910 г. | — 514 | гарнцоў па 16 к. | = | 82 р. 24 к. |
| „ 1911 г. | — 735 | „ „ 16 „ | = | 117 „ 60 „ |
| „ 1912 г. | — 1026 | „ „ 16 „ | = | 164 „ 16 „ |

З гэтаго мы бачым, што калі карову добра і акуратна карміць, то, не зважаючы на вялікі кошт самога кармленьня, можна мець і ладны даход. Корм для каровы „Залётнай“ абыйшоўся ў 1912 гаду 128 рублёў, а даходу яна дала 164 р. 16 к.; значыцца чыстаго даходу асталося (164 р. 16 к. — 128 р.) = 36 р. 16 к.

Інструктар млечнай гаспадаркі **Л. Папроцкі.**

*Дв. Бабоуня Слуцк. пав.*

# Нашае багацьце.

Добры корм для скаціны—гэта нашае багацьце. Сытна кормленая жывёла, апрача таго, што сама па сабе дае карыстны даход, ешчэ і астаўляе нам сільны, добры гной, каторы і становіць глаўны фундамэнт ураджайнасьці на полі. Ураджай на полі—прыбытак ня толькі у сьвірне, але прыбытак подсьцілу і корму для скаціны, а калі аднаго і другога будзе прыбываць, мы будзем магчы прыгадаваць лішнюю жывёлу, с каторай будзем, разумеецца, мець і лішнюю карысьць; будзем мець лішніцу гною, каторы зноў такі павялічыць ешчэ больш ураджай наш і т. д.—усьцяж.

Дагэтуль па нашых дробных гаспадарках глаўным кормам для рагатай скаціны ужывалася салома; на сена глядзелі толькі як на затаўку да саламянаго корму.

Колькі даецца гэтай затаўкі—гэта ўжо заусёды залежна бывае ад запасу сена ў адрыне. Пакуль што, значыцца, сена і ёсць для нашай жывёлы самай большай падмогай і самым пажыўным кормам; вось дзеля гэтаго і павінны мы зьвярнуць усю сваю ўвагу, каб гэтаго сільнейшаго корму ня толькі зьбіраць як найбольш, але ешчэ важней—як найлепшаго, памятаючы, что

### сена—нашае багацьце.

Так ужо ў нас вядзецца, што мы, задаючы сена, бяром яго на вока, зусім не зважаючы на яго вартасьць.

Тымчасам шмат карысней для жывёлы, з'есьці хоць і менш, але добраго сена. Найлепшае сена, само сабой разумеецца, мурожнае, але і з іных лугоў, калі толькі сабраць яго у пару, то хоць будзе яно і не такое пажыўнае, усё-ж такі скаціна ласа яго з'есць; дык дзеля гэтаго вельмі важна улучыць пару касьбы, а пара гэта для кожнай сенажаці можэ быць іншая.

### Асакаватые сенажаці

трэба касіць перш-на-перш, бо яны найраней узрастаюць. Асака, абы толькі з вясны адпусьціла земля, ўжо і пушчаецца ў рост і гэткім парадкам не раз ратуе гаспадара, катораму, як гэта часта—густа бывае, на вясну німа ўжо чаго даць свайму дабытку аві на раз, а купіць німа за што. (Але, калі прыцісьне ўжо такая беда, то ўкасіўшы асакі, трэба даць ёй, калі не зусім высахнуць, то прынамсі добра завяць, а тады ўжо даваць жывёле).

Як толькі асака добра падыймецца, то і брацца касіць яе ўсю на сена. Толькі пакуль маладзенькая яна, хоць, высушыўшы, і вялікі будзе ўпадак,—здатна асака на корм і нават жывёла ахвотна будзе яе есьці. Калі-ж толькі асака перэстаіць на пні, то ўжо скосіш яе хіба толькі на подсьціл. Ніякая,

бадай, трава так скора не адрастае, як асака, дык праз усё лета можна яе касіць разы 3—4; абы не даваць ёй перастоівацца, дык ешчэ і ў восень атава атскочэ.

Тое самае можна сказаць і

## а балотных сенажацях.

Зараз—жэ пасьля касьбы асакаватых сенажацяў, трэба брацца за балоціны. Калі-ж толькі пагалішся, каб больш сабраць сена і пачнеш спяліць балоціну, то—хоць вазоў сена і болей на лік будзе, але карысьці для жывёлы—ніякай: зімой— калі гэтакага сена і не жалеючы прытрасеш да саломы, то скаціна лепш салому выбярэ і з'есьць, а старое балотнае сена падаб'е пад ногі. А трэба ешчэ і тое ўзяць пад увагу, што хоць і будзе большы ўпадак пры сушцы маладой балоціны, але за тое лішні раз, а то і два, скосім яе, дык адно на другое выйдзе.

Як асака, так і балоціна, хоць нават і парой сабраные— найменш пажыўнае даюць сена. Яго трэба злажыць асобна ў пуні і зімой карміць ім толькі гультуючую жывёлу.

Управіўшыся з асакаватымі і балотнымі сенажацямі, трэба брацца за

## с і у ц ы.

Сівец, калі толькі не перэстаіць, а зьбярэш яго маладым і зялёным мае сваю немалую вартасьць і ўселякая жывёла будзе яго ласа есьці, а найлепей авечкі, асабліва ешчэ тады, калі ў гэтым сіўсы трапляюцца, як гэта часта бывае, лісточкі. Карміць гэткім сенам авечкі нявыгода толькі тая, што яно страшэнна набіваецца ў воўну, а так сама часта бывае, што сівец пападае ў вока, і гаспадару, каторы корме авечкі сіўцом, трэба канешна часта перэглядаць сваё стадка, бо ад сіўцу вока ускорасьці зацягівае, дый так запухае, што пасьля трудна ўжо даць рады.

Але, як уже было сказана, сівец добры толькі на корм тады, калі ён скошэны маладым, калі-ж чэкаць с касьбой, каб больш сабраць сена, ажно пакуль ён не пастарэе, то тады сівец робіцца цьвёрды—дрот—дротам і ані тэй пажыўнасьці, ані таго смаку, як у маладым—не мае.

Як балоціна, так і сівец с сушкай шмат часу не займаюць. Скошаные зраньня, калі удасца ясны, ды ешчэ ветраны дзень —да вечэра—разбітае сена мала чаго не гатова, трэба толькі паставіць яго ў копы, а калі і на заўтра пагода з ветрам будзе, то такога сена неканешна і растрэсаць—дойдзе яно да вечэра і ў копах.

Скончыўшы работу з балоцінамі і сіўцамі, найчасьцей бывае так, што пакуль падойдзе пара брацца за мурагі, гатова пярвей

## к а н ю ш ы н а.

Калі касіць канюшыну—згадаць ня трудна: абы зацьвіла --кладзі ея, тады толькі можэ быць праўдзівая карысьць.

Пажытак с канюшыны мы і без таго, праўду кажучы, перацэніваем: дось, што яна завецца канюшынай, то ўжо думаем, калі хоць як і ў якую-б пару не сабралі—ўсё ж ткі будзе акрасай у корме. Тымчасам як раз наадварот. Перш-наперш трэба ведаць, што ня толькі канюшына, але і найлепшые мешанкі не даюць тэй вялікай карысьці і сытнасьці, які дае добры мурог; апрыч таго, ўся пажыўнасьць канюшыны ў яе лісточках і цьвеце, ды пакуль сьціблы яе маладзенькіе, тоненькіе, дэлікатные.

Калі-ж толькі ня ўлучыш у пару яе скасіць, усё што ёсьць найлепшае ў канюшыне—прападае: лісточкі і тонкіе, найдэлікатнейшые пабочные гукі падгніваюць; астаецца толькі глаўны сьцібель, ды і той адзерэвяняе, зробіцца бытцам прут, а на вярху—макавачка—вось і ўсё. Гэтак сабраная канюшына, нават калі яе зрэзаць на сечку, то ешчэ прыйдзецца добра закрасіць вопсыпкай, каб жывёла стала яе есьці, а і то шмат цыбукоў у жолабе астанецца—пойдзе у глум. Дык, калі хочэце мець праўдзівую падмогу ў гаспадарцы с канюшыны, касіце яе толькі маладой—абы зацьвіла.

Найменш, бадай, баяцца перастою—

## мурагі.

Але, хочучы з іх мець як найбольшы пажытак, так сама сьцягіваць с касьбой нельга. Найлепшая пара касьбы для мурагоў, калі яны пакрыюцца кветкамі, як рознакалёрным дываном. Калі-ж даць перэкрасаваць і завязаць насеньне, то ня толькі само сена шмат траціць сваей вартасьці, пажыўнасьці, але і узрост лугу к налецьцю будзе слабейшы.

Дасушыцца як мае быць канюшыны, а хоць бы і мурагу—клопат не малы. Мурог, асабліва калі ён скошэны маладым, у дзень будзе ажно крышыцца ў руках, а злажы яго ў пуні, калі ён хоць лёгка не перагрэецца перш ў копах, то як віш адойдзе. Тое самае і с канюшынай.

Уцекаючы ад дажджу, не раз прыходзіцца складаць у тарпу і ня зусім добра высушэная мурожнае сена, або канюшыну. Тады трэба ў іншы спосаб даваць сабе рады.

Купіўшы тоўчанай солі, высушыць яе ў печцы, каб ажно трашчэла і гэткай сольлю перасыпаць сена на тарпе. Праз некалькі дзён соль адойдзе зусім—зробіцца мокрай, бо ўсю вільгаць с сена ўцягне ў сябе, але само сена не сагрэецца, а зімой—скаціна гэткі корм есьць надта ахвотна.

**На—зак.**

# Як дагледаць кабылоу пасьля ажарабленьня і жэрэбяткоу.

Рэдка калі прыйходзіцца памагаць кабылам пры іх ажарабленьні; двойча ў ніх зусім мала калі здараецца. Іншым разам кабылы так скора і лёгка жарэбяцца, што нават само жарабё выпадае разам з „мяшком". Тады ўжо трэба канешна гэты мяшок (як толькі выйдзе ўжо ён на зямлю) раздзёрці, бо інакш малое магло-б задушыцца. Бывае ешчэ і так, што пупровы шнурок, як устае кабыла, сам не адарвецца, то трэба яго перэрваць, кроў добра выціснуць двума пальцамі, а калі за даўгі, намазаўшы чыстым дзёгцям, падвязаць.

Барані Божэ толькі не здаіваць малодзіва, як гэта часта—густа робяць. Малодзіва гэта само сабой найважнейшае лекарства для малога жэрэбяці, бо, нассаўшыся яго, выкіне разам з гноем той клейстраваты клей, які ешчэ застаўся ў яго жываце, а малодзіва яго распушчае; калі-ж яго здаіць, то жэрэбяты хварэюць на жывот.

Не раз бывае, што недаўна нарадзіўшымся жэрэбятам цяжка прыходзіцца выкінуць першы кал; тады трэба, намазаўшы палец алівай, ці нясоленым маслам, выбраць гэты кал с кішкі.

На першым тыдні пасьля ажарэбленьня с кармешкай трэба быць асьцярожнымі, а аўса нават зусім не варта даваць. Асьцерагацца так сама тухлаго і гнілога сена, бо ад гэтаго як кабылы, так і жэрэбяты будуць хварэць. Кабыле пасьля ажарабленьня даць цёплаго пойла з атрубоў, ці аўсянкі—замест вады. Праварына павінна быць ня цесная, ня душная, ня цёмная і ня скупіцца чыстай саломы на падсьцілку.

Чым жарабё раней пачне есьці авес і чым болей яго будзе зьедаць, тым лепш і хутчэй будзе расьці, ды і пасьля сам конь будзе лепшы, дужэйшы, ну і, разумеецца, даражэйшы.

Жалабок для жэрэбяці павінен быць нізкі, бо калі ён будзе повысакі, то пасьля з гэтаго жэрэбяці можэ выйсьці конь калекай: грэбяціна яго і крыж праз лад выгнуцца і страце ўселякую форму.

І матку, і малое трэба як найчасьцей выводзіць на двор, зважаючы адняк, каб пягода была і цяплейшая, і сухая. Кабылу можна вадзіць, а жэрабё хай сабе пабрыківае каля яе.

Кабылу праз першые 3—4 тыдні пасьля ажэрабленьня лепш да працы не браць, але, калі бяз гэтай падмогі гаспадар абыйсьціся ня можэ, то прынамсі трэба прыпушчаць жарабё да маткі меней—болей праз гадзіны поўтары, бо інакш само малако ў вымені загрэецца, малое можэ праз лад нассацца і захварэць. Калі ж кабыла была доўга без жэрэбяці (напрыклад—у дарозе), то тады лепш яе сперша здаіць.

Раз на заўсёды толькі памятуйце: ня біць, не страшыць, дый ня крычаць ані на кабылу, ані на жарабё, бо гэткім толькі парадкам узгадовываеце самі сабе і другім наравістые коні.

Як чэлавек, так і ўсялякая жывёла добра разумее, як з німі абходзяцца і пасьля гэтым самым атплачывае...

Кабылу—матку пасьля 5—6 тыднёў, як ажэрабілася можна браць да работы, а малое—калі німа халадоў—выпускаць разам.

Адлучаць жэрабё раней 4 месяцоў—не варта, а лепш пасьля пятаго.

Саму-ж кабылу у дзевяць дзён пасьля ажэрабленьня можна пусьціць і да жэрабца.

*Лебедка.* **Г. І.**
*Лідзкі павет.*

---

# Рады для гаспадароу.

У добраго гаспадара папар у гэтым месяцы павінен быць загараны. Хто гэтаго не зрабіў у маі, той нехай зробіць хоць у пачатку чэрвеня.

Майскай арбой лепш вырабіш зямлю, ні дапусьціш разрастацца траве і ўсякаму зельлю. Арба ў маі далёка лягчэйшая, бо земля ешчэ саўсім не перасохла. А хто арэ ў канцы чэрвеня, або у ліпні—сам сябе і сваю скаціну мучае. Бядуе такі гаспадар: „ах як цяжка араць, суха, хоць-бы дождждык прайшоў!“ А дажджу як німа, так німа. Найчасьцей так здараецца, што рабакі жыта ад'едаюць там, дзе папар быў позна заараны. Пасьля загараньня папару, плуг, або саху трэба кінуць і не браць, ажно пакуль трэба мешаць пад жыто.

Ад арбы папару, ажно да мешаньня нам павінна служыць барана: гэта самая важнейшая для нас гаспадарская прылада. Не пакідаймы-ж яе цяпер!

У нас—гаспадароў ёсць такі благі звычай: баранаваць папар адзін толькі раз. А пасьля, як толькі зазелянее, мы аром другі раз і такую арбу мы завём траеньнем. Вота-ж гэтаго траеньня мы павінны высьцерагацца, як мага. Араць трэйці раз мы можэм хіба толькі для прыкрыцця гною.

Барана ў нас німае жаднаго значэньня, а тымчасам яна можэ зрабіць нам вялікую услугу.

Уся штука баранаваньня ёсць у тым, каб пакрышыць скібы, выраўняць ральлю. а самае важнае—не дапусьціць да узросту траў. Трымаючыся гэтаго астатняго, нам і трэба баранаваць як найчасьцей. У 2 тыдні пасьля арбы, мы павінны яе пабаранаваць па разы 2 —дзе цьвярдзейшая земля і па разу дзе земля пяскаватая. Удва, ці тры тыдні пасьля першаго баранаваньня, як стане толькі паказывацца трава—барануй другі раз так сама па два разы. Пасьля другога баранаваньня у два тыдні, як пачынае ізноў паказывацца трава—ізноў барануй цяжкой

бараной, а калі маеш пружыноўку, бяры яе ў работу: яна табе найлепей паможэ.

На так вырабляным папары, ня будзе травы і ніякога зельля, земля так не перасохне, добра будзе араць пад мешавь і добрае вырасьце на ей жыта.

Ешчэ я тут мушу сказаць аб аднэй важнай для нашай ральлі рабоце: аб вальцаваньні. Калі мы не маем вальца (ці вала), можэм яго замяніць бервяном даўжынёй тры—чатыры аршыны, убіўшы ў яго з абодвух канцоў тоўстые гвазды, на які можна узлажыць аглоблі, запрагчы каня і цягаць па ральлі. каб яе прыціснуць. Ральля пасьля арбы папару, абараньня гною, ці іржышча—павінна быць звальцавана, прыціснута, каб усякіе там травы, і ржышчэ, ці гной маглі хутчэй перагніць—разлажыцца.

А. Бэнэцэвіч.

*Вільня 22/V 1913 г.*

---

# Ячмень.

Ячменю ёсьць некольки гатункаў і кожны гатунак маець некольки адмен:

1) Ячмень двухрадны; 2) Ячмень 4-х радны і 3) — 6-ці радны. Розніца ўсіх адмен ў форме коласа, каторая залежыць ад размяшчэньня ў ім зерняттак.

Двурадковые ячмені—на вогул далікатнейшые і вымагаюць лепшых варункаў для свайго узросту; с паміж іх — для нас прыгоднымі могуць быць: „Ганна“, Ганнацкі“, „Хэваліэр“ (Chevalier).

Ячмені чатырох і шасьці радковые — ні так вярэдлівы і лепш удаюцца, але іх за тое ні ахвотна купляюць у провары, бо яны ні так прыгодны для варкі піва. Як добры гатунак—можна раіць—4-х рад. ячмень—„Мархійскі“.

Земля пад ячмень павінна быць ураджайная, мягкая і каб добра прапушчала у глыб ваду і паветра. Нялюбіць ячмень ні лішняй вільгаці, ні лішняй засухі.

Поле павінна быць саўсім чыстым ад травы і добра выраблена. Найлепшым мейсцам будзе картафляньне; на чыстай зямлі можна сеяць і пасьля матыльковых расьлін; але не ўдаецца пасьля калосных. На сьвежым гнаі і добрай зямлі іншым разам вылегае, дык лепей сеяць на другі год пасьля гною.

Поле павінна быць узгарана з восяні не надта глыбока. Вясной-жэ—на лёгкай зямлі — досыць будзе прайсьці спружыновым, або талярковым культыватарам; у цьвёрдым грунце — трэба перад сяўбой падмешаць і пасеяць у сьвежую ральлю.

Перад сяўбой трэба добра ачысьціць насеньне.

На дзесяціну ячменю высеваюць—10—12 пуд. Калі пасьля засеву—земля ад дажджоў сплывецца і высыхаючы, робіцца на ей кара, то яе канешна трэба узрушыць бараной, хоць ужо ячмень і абышоў нават. Толькі, калі ўсеяна у ячмень канюшына, то тады баранаваць ужо нельга.

**С. М.**

---

# Сэрадэля.

Сэрадэля расьліна аднагодняя. Даець добрую зялёную пашу, вельмі пажыўную і далікатную; скаціна ахвотна есьць.

Найлепей удаецца на грунце пешчаным, глыбакаватым і досыць вільготным. Усеваецца ў жыта ранняй вясной, як толькі сойдзе сьнег і земля крыху аттае; насеньня бярэцца 3—3½ пуд. на дзесяціну. Пасеў прыкрываецца у адзін сьлед лёгкай бараной. Усяецца і ў авес пасьля яго прыкрыцьця так, каб пасьля толькі прайці раз бараной.

Расьцець сэрадэля туга, пакуль ня зьнімецца глаўная збажына, а пасьля дружна кідаецца ў рост і за нядзелі 2 — 3 здатна да ужытку: на пашу, ці на зялёны корм.

Сеюць сэрадэлю і адну — без прыкрыцьця, але трэба, каб поле было вельмі чыстым, бо с пачатку развіцьця рост яе надта слабы і трава можэ лёгка заглушыць яе; як добра падыймецца, то тады ні баіцца. На полі сеўба першы раз можэ не удацца, але ня трэба зражацца гэтым і пасеяць другі раз на тым самым мейсцы, або прывесьці крыху зямлі с таго поля, дзе яна ўперад расла добра і пасыпаць на новым мейсцы.

Чыстым пасевам сэрадэля сеецца, калі хочуць мець насеньне, або сена. Бо пры чыстым пасеве — ў вересні можна сабраць на сена і ешчэ ў кастрычніку можна мець зялёную пашу. Пакідаць на насеньне так сама выгодна, бо добра плацяць і ня трэба вялікіх заходаў.

У часе, калі найболей ёсць стручкоў (хоць ешчэ цьвіце), косяць і сушаць у пракосах; потым малоцяць, трасучы яе вілкамі над разасланай на зямлі пасьцілцы; зярнё высыпаецца, а салому адкідаюць на бок.

Пры куплі насеньня трэба зьвяртаць увагу, каб было свежае, а пазнаецца гэта, разрэзаўшы яго; тады ў сярэдзіне коляр павінен быць жоўты, як воск; калі-ж сярэдзіна зерняці будзе буры, а то і чорны, то с такога насеньня пацехі ня будзе.

**Гаспадар.**

---

У Маі месяцы ўсім сваім падпішчыкам Рэдакцыя „Сахі“ дарма разаслала найлепшые заводные гатункі аўса і ячменю, якіе былі на выстаўцы ў Вільні, на пробы.

---

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вльня.

# Новые кнігі.

*„Предварительный отчетъ по качественному изученію литовско-бѣларусскаго скота въ Минской губерніи. Составилъ специалистъ по животноводству Э. И. Бокунъ. Подъ редакціей губ. агранома Вельяминова-Зернова. Минскъ. 1913 г.“*

Не малую працу прыняў на сябе губэрнскі агронам п. Вельямінов - Зернов: завесьці па дробных гаспадарках Мінскай губэрніі такіх млечных кароў, каторые былі-б прытасаваны да мейсцовых кліматычных варункаў і давалі-б добры даход. Дзеля гэтаго пры помачы п. п. Іспалатова, Бокуна і іншых, ён пазаводзіў лекціі, курсы, а што найважней—паказное кармленьне кароў, каб гаспадары нашы маглі самі, гледзючы на пробы, перэканацца якая розніца, якая карысьць можэ быць с тэй самай нашай тутэйшай каровы, калі яе іначэй дагледаць.

Вось у гэтай кніжцы, а каторай мы тут успамінаем, шмат ёсць з розных старон губэрніі вельмі цікаўнай статыстыкі ў гэтай справе. Так, напрыклад, па лепшых дварох, дзе гадуюць мейсцовы гатунак каровы, але даюць ім добры даглёд, дый целят на гадоўлю абы якіх не пушчаюць, паказалося, што тутэйшая карова ня менш дае малака, а на сыць бывае ешчэ лепшай ад заводных (двор Ігнатычы).

У дробных гаспадароў такая самая карова, разумеецца, ня можэ ўжо даваць гэткай карысьці, бо не мае яна там ані такога даглёду, ані тэй, якая ёй патрэба, выгоды. Але, не зважаючы на тое, што селянскіе каровы с самай вясны, ды ажно да познай восені ніколі не паласуюцца добрай пашай, а зімой апрыч саломы, мяккіны, ды крыху сена нічога не бачуць, бо пажыўнаго корму — як бульба, буракі, вотрубы, брага і т. п.— ніколі не даецца, ўсё-ж такі яны не зусім ешчэ затрачываюць сваю млечнасьць, і, калі-б даць ім толькі іншую выгоду, то гаспадары нашы мелі-б с сваіх кароў немалы даход.

У канцы кнігі ёсць рады, што трэба было-б зрабіць, каб палепшыць гатунак нашай тутэйшай скаціны і як сьлед наладзіць млечную гаспадарку. Павэдлуг аўтора, трэба было-б парабіць кантрольные саюзы, завесьці мэтрыкі для скаціны і рабіць выстаўкі.

Зусім згаджаючыся з гэтым, я думаю, што ешчэ важнейшым было-б *скрозь* рабіць паказные спосабы корму скаціны, каб гаспадары сваімі вачамі маглі перэканацца аб іх карысьці; апрача таго трэба было-б па ўсей Беларусі парабіць пункты с чырвонымі бугаямі (сьперша прывозными Англерамі, Дацкімі Сілезійскімі, ці Польскімі, а с часам і сваімі, выбіраючы лепшых з новаго пакаленьня). Іначэй селяне будуць карміць сваю жывёлу па даўнейшаму; прыплод будзе што раз болей мешаны і горшы і гэткім парадкам сам гатунак беларуска- літоўскай скаціны што раз болей будзе выраджацца.

Але я пэўны, што п. Вельямінов-Зернов, пры помачы сваіх супрацоўнікоў, дакажэ таго — за што ўзяўся і паправе нашу млечную гаспадарку ня толькі ў Міншчыне, але і на ўсей Беларусі.

Інструктар скатаводства і млечнай гасцадаркі

*Бабоуня, Слуцк. п.* **Л. Папроцкі.**

Р.1307

# ВИЛЕНСКОЕ ОТДѢЛЕНІЕ
# РУССКО - АМЕРИКАНСКАЯ ЛИНІЯ
# Русскаго Восточно - Азіатскаго Пароходства



**ЕДИНСТВЕННОЕ**
**прямое сообщеніе**
**между**
**ЛИБАВОЙ и ГАЛИФАКСОМЪ**
**(КАНАДА)**
**безъ пересадокъ**
**10 дней пути**

Русско-Американская Линія Русскаго Восточно-Азіатскаго Пароходства является единственнымъ Пароходствомъ, поддерживающимъ прямые безпересадочные рейсы между ЛИБАВОЙ и НЬЮ-ІОРКОМЪ и ГАЛИФАКСОМЪ (Канада) спеціально для этой линіи оборудованными пассажирскими параходами, которые кромѣ своей быстроходности, отличаются удобствомъ и комфортабельностью пассажирскимъ помѣщеній всѣхъ классовъ.

Переѣздъ изъ ЛИБАВЫ въ НЬЮ-ІОРКЪ или ГАЛИФАКСЪ совершается на первоклассныхъ почтово-пассажирскихъ двухвинтовыхъ параходахъ: „ЦАРЬ“, „КУРСКЪ“, „РОССІЯ“ и „БИРМА“ и продолжается около 10-ти дней.

Параходы отходятъ изъ Либавы регулярно каждыя двѣ недѣли по вторникамъ.

Относительно условій проѣзда и др. подробностей просимъ обращаться письменно или лично непосредственно въ наше Виленское Отдѣленіе, Вильна Конная ул. 4, у Острыхъ Воротъ телефонъ 10—63. Адресъ Главной Конторы: ЛИБАВА, Кургаузскій пр. 2, Собственный домъ.